Цана асобнага нумару 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 86 (137). Вільня, Серада 23 Лістападу 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Вострабрамская 8—1.
(Wilno, ul. Ostrobramska 8—1):

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.

Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі.

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Прадвыбарныя блёкі.

Яшчэ стары Сойм ня кончыў свайго істнаваньня, а ўжо ўсе пачалі перадусім весьці прадвыбарную акцыю ў новы Сойм. Адбываюцца рожныя зьезды, канфэрэнцыі і нарады з мэтай мабілізацыі сіл на выбары. Калі ходзе аб выбары на нашых землях, то цяпер ізноў зьявіліся і вызваленцы, і з хлопскай партыі, і з радыкальнай, і з „Працы", і пэпээсы, і ўрэшце: умястоўшчыкі, паўлюкевічаўцы і мамонькі. Ды ўсіх іх нельга і пералічыць. Ужо адно тое, што ў працягу апошніх пяцёх гадоў наша вёска ня бачыла гэтых „абаронцаў" беларускага сярмажнага народу ў радох змагароў за яго правы і інтарэсы сьведчаць аб тым, што ўсе гэтыя „абаронцы" хочаць нам, беларусам, згубы, а не вызваленьня з паняволенага ярма. Досыць толькі коратка кінуць вокам на гэтыя партыі, каб пераканацца ў няшчырасьці іх у адносінах да беларускага пытаньня і ў баламутнай, шкоднай працы для беларускіх працоўных масаў. Мы добра помнім, як цяперашнія паслы з „Вызваленьня": Ваявудзкі, Адамовіч, Шапель, Шакун і іншыя, маючы пасьведчаньні ад уладаў на права арганізаваньня мітынгаў, аддавалі на прадвыбарных вечах сялянам і зямлю дарма, і школу ў роднай мове, і палітычную вольнасьць, і самаўрады, а як прышлося ў Сойме да галасаваньня, дык выйшла наадварот. Замест зямлі беларускім сялянам—урадавыя партыі далі нам асаднікаў, замест школ беларускіх—сыстэму складаньня школьных дэкляарацыяў, замест вольнасьці—казённае месца на Лукішках і г. д.

Цяпер, пры новых выбарах, замест аднаго „вызваленьня" і „пэпээсаў", як груганьнё нападуць на беларускага селяніна ўсе вышэй успомненыя партыі і стануць рваць яго ў свой бок. Але беларуская вёска 1928 году ўжо ня тая, што была ў 1922 годзе. Працоўныя гушчы беларускіх вёсак, мястэчак і местаў ужо разьбіраюцца ў палітычным руху і патрапяць даць сваю „падзяку" гэткім паном, што зьяўляюцца да выбаршчыкаў толькі па галасы.

Аднак незалежна ад гэтага беларускія палітычныя партыі павінны праявіць максімум энэргіі і арганізаванасьці, каб нівод-зен беларускі голас не прапаў, а пайшоў за сваіх беларускіх кандыдатаў. Калі-б існуючыя беларускія партыі пайшлі на выбары кожная паасобку, дык гэта было-б вельмі некарысным для Беларускага Народу, бо беларускія партыі, замест змаганьня з чужацкімі партыямі і псэўда-беларускімі, вялі-б з сабою прадвыбарную барацьбу. З гэтае барацьбы маглі-б скарыстаць нашыя рожныя „апякуны" і такім чынам Беларусы маглі-б утраціць некалькі мандатаў. Мала гэтага, выступленьне Беларусаў на выбарах некалькімі паасобнымі сьпіскамі пацягнула-б за сабою яшчэ ўтрату некалькі мандатаў, дзякуючы прапажы г. зв. астаткаў галасоў. Усе гэтыя аргуманты гавораць толькі аб тым, што інтарэсы Беларускага Народу вымагаюць, каб беларускія партыі ішлі на выбры разам адным супольным сьпіскам. Але ня гледзячы на гэтыя аргуманты і вывад немагчыма сказаць, што Беларусы пойдуць адным сьпіскам, бо на перашкодзе гэтаму стаіць перадусім хворая амбіцыя некаторых беларускіх „партыйнікаў", якія свае асабістыя інтарэсы індыфікуюць з інтарэсамі партыі. Рэч ясная, што тое ці іншае разьвязаньне пытаньня аб беларускім выбарчым блёку пакажа на сколькі ў тэй ці іншай партыі ёсьць разьвіта пачуцьцё адказнасьці перад Беларускім Народам. У кожным выпадку на артыкул наш „Першы крок" прыхільна адклікнулася „Biełaruskaja Krynica", што таксама сьведчыць, што нашая ініцыятыва аб беларускім выбарчым блёку зьяўляецца вельмі рэальнай і мэтнай з пункту гледжаньня інтарэсаў Беларускага Народу.

Побач з аб'яднаньнем Беларусаў пры выбарах у форме Беларускага Нацыянальнага Блёку, ці зьяўляецца патрэбным і мэтным блёк шырэйшы, абыймаючы іншыя нацыянальныя меншасьці? Гэтае пытаньне зьяўляецца вельмі важным. Ужо адно тое, што ўся польская прэса, як варшаўская, так і віленская, падняла сільны алярм з прычыны гутарак паміж нацыянальнымі меншасьцямі ў Польшчы ў справе стварэньня агульнага блёку нацыянальных меншасьцяў, гавора аб тым, што гэты блёк быў-бы толькі карысным для ўсіх нацыянальных меншасьцяў. Ды і ў самай рэчы, калі мы прыпомнім сабе прычыны заложэньня ў 1922 годзе 16-ткі, ды калі прымем пад увагу цяперашняе палажэньне меншасьцяў у Польшчы, асабліва Беларусаў, дык няма сумліву, што і агульны блёк нацыянальных меншасьцяў быў-бы вельмі пажаданым і карысным для Беларусаў. Немагчыма цяпер ужо напэўна сказаць, як аканчальна вырашыцца справа заснаваньня агульнага блёку нацыянальных меншасьцяў, бо незалежна ад рожных тэхнічных перашкод, зьвязаных з інтарэсамі паасобных меншасьцяў, урадавыя дзейнікі і ўсё польскае грамадзянства вельмі натужваецца, каб не дапусьціць да заснаваньня блёку нацыянальных меншасьцяў. На колькі ім удасца гэта правесьці, даведаемся ў блізкай будучыне.

## ВОКАМ ПА СЬВЕЦЕ.

VIII.

Відаць не на жарты разьвіваецца камунізм!.. Відаць ня жартамі ён пужае сусьветную буржуазію ды капіталістых, калі яны наладзілі кангрэс у Гаазе, каб агульнымі сіламі шукаць ратунку ад камуністычнае небясьпекі. Аб тым, што небясьпека гэтая ёсьць найлепш гавораць тыя зьявішчы, якія відзім на сьвеце. Няма такой старонкі на нашай плянэце дзе-б не запісалі газэты такога здарэньня, якое ня мела-б камуністычнага ці камунізуючага аблічча. Характэрна тут тое, што гэтыя „камуністычныя" праявы аднолькава здараюцца, як у старонках цывілізаваных і культуральных, так і там дзе яшчэ прынята называць першабытнымі, дзікімі краінамі. Камунізм аднолькава відзім у Францыі, Англіі, Фінляндзіі, Латвіі, Эстоніі, Японіі, Кітаі, Філіпінскіх выспах (амэрыканская калёнія), на Салямонавых выспах (анг. кал.) на выспах Яве і Суматры (галяндзкія кал.) і гэтак далей і гэтак да безканцовасьці

Паседжаньні і нарады буржуазнага кангрэсу ў мэтах забясьпячэньня ад камунізму адбываліся патаемна—пры зачыненых дзьвярох, так што у той час нічога нельга было ведаць аб тэй працы. Толькі пасьля заканчэньня кангрэсу зьявіліся весткі аб выніках працы. Вось гэтыя вынікі хочацца і адзначыць!... Як трэба было спадзявацца, у прынятай рэзалюцыі першаю мэтаю Лігі — зьяўляецца барацьба. Знача з камунізмам, антыкамуністычная буржуазная Ліга будзе бароцца, ці праўдзівей будзе арганізаваць барацьбу ў плянэтарным маштабе.

Барацьба з камунізмам можа адбывацца двумя спосабамі: лячэньнем розных сацыяльных хваробаў — направай сацыяльнай несправядлівасьці моцных у адносінах да слабейшых і фізычнае душэньне праяваў камунізму, як вынікаў і рэзультатаў гэтае несправядлівасьці. Гэтак разумеем мы.

Антыбальшавіцкі буржуазны кангрэс выбраў другі спосаб, а знача прышоў да перакананьня, што з камунізмам трэба бароцца фізычнаю сілаю. А калі так, дык прынялі гэтакія пастановы:

1) „Кангрэс прызнаў, што праграма III Інтэрнацыяналу ў аснове сваей мае вачавідныя заклікі ня толькі да сацыяльнае рэвалюцыі, але-ж і да ўчынкаў агульна-карных праступкаў, якія караюцца ў кожнай старонцы па яе законам". Знача, згодна гэтае пастановы, камуніст павінен лічыцца, як разбойнік ці злодзей і як гэтакі павінен быць караным.

2) „Гаагскі кангрэс даводзіць, што праступная праграма III Інтэнацыяналу „паўсюдна" зьдзейсьняецца „пры дапамозе ўраду РССР" г. зн. ведамай дзяржаўнай ўлады. Вывады ясныя. Дзяржавы, якія прызнаюць урад РССР і ўтрымліваюць з ім зносіны, прызнаюць, падтрымоўваюць і тым умацоўваюць арганізацыю, якая мае сваім заданьнем агульна-карныя дзеяньні". як вынікае з гэтае пастановы, дык кангрэс лічачы савецкую ўладу — бандыцкаю, жадае, каб ніякія дзяржавы ня мелі з ею ніякіх зносінаў і... толькі!...

3) „Канфэрэнцыя зьвяртае ўвагу эўрапейскіх дзяржаваў на тое, што пры такіх умовах зьдзіўляюць два факты: істнаваньне афіцыяльна дапушчаных, маючых сувязь з III Інтэрнацыяналам, камуністычных партыяў і прыналежнасьць да іх асобаў, якія зьяўляюцца дзяржаўнымі ўрадоўцамі і атрымліваюць дзяржаўную пэнсыю. Кангрэс прапануе кончыць з гэтакай вольнасьцю".

